*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◆ № 11 (171) ◆ 16 сакавіка 1994 г. ◆ Кошт — 20 рублёў.



## ПОСТУП ТЫДНЯ

*11 САКАВІКА У ДОМЕ ЛІТАРАТАРА АДБЫЛОСЯ ПАСЯДЖЭННЕ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ РАДЫ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ, на якім былі разгледжаны пытанні аб арганізацыйна-прапагандысцкай дзейнасці ТБМ і аб рабоце рэдакцыі газеты «Наша слова». Выступілі Я. Цымараў, С. Запрудскі, З. Санько, Э. Ялугін, В. Вячорка, С. Вадан'ян, М. Мацукевіч, А. Пяткевіч, В. Вільтоўскі, М. Савіцкі, Н. Аксёнчык, В. Адамчык, А. Чэчат, В. Болбас, А. Казловіч, М. Булавацкі, Л. Цыганкоў, В. Костка і іншыя. Вёў пасяджэнне старшыня Рэспубліканскай Рады ТБМ Ніл Гілевіч. Пасля адбылася Вечарына Беларускага Слова, наладжаная Менскай гарадской радай ТБМ. Працавала выстава А. Белага «Любіць Радзіму — шанаваць родную мову!». Кожны прысутны на Вечарыне атрымаў сувенір Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны. Падрабязную інфармацыю пра пасяджэнне Рэспубліканскай Рады Таварыства чытайце ў бліжэйшым нумары.*

◆◆◆

10 САКАВІКА ПАДЧАС СУСТРЭЧЫ З РАБОЧЫМІ БЕЛАРУСКАГА МЕТАЛУРГІЧНАГА ЗАВОДА Ў ЖЛОБІНЕ СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ М. ГРЫБ ЗАЯВІЎ, што Расія на ўзроўні экспертаў вылучыла новыя ўмовы аб'яднання грашовай сістэмы Беларусі з расійскай: стварэнне адзінага бюджэту, закрыццё Нацыянальнага банка Беларусі і адкрыццё ў Менску філіяла Цэнтральнага банка Расіі. На думку спікера, гэтыя прапановы «ставяць пад пытанне ўвесь суверэнітэт нас як людзей і як краіны». Старшыня ВС выказаў меркаванне, што, калі Расія адмовіцца ад рублёвай зоны, трэба шукаць іншыя шляхі.

◆◆◆

*СТАРШЫНЯ ПРАЎЛЕННЯ НАЦЫЯНАЛЬНАГА БАНКА БЕЛАРУСІ С. БАГДАНКЕВІЧ НА ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ 9 САКАВІКА ЗАЯВІЎ, што Расія адышла ад раней узгодненых пазіцый і вылучыла новыя патрабаванні: разлікі паміж Беларуссю і Расіяй праводзіць на аснове клірынгу ў межах рэштак сродкаў НББ у Цэнтральным банку Расіі; ліквідаваць НББ і адкрыць у Менску філіял ЦБР; цэны на энерганосьбіты для спажыўцоў Беларусі і Расіі павінны быць рознымі і інш. Старшыня праўлення НББ назваў новыя патрабаванні Масквы «непрымальнымі».*

◆◆◆

У ДОМЕ НАСТАЎНІКА ПРАЙШЛА ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ НА ТЭМУ «ГІСТАРЫЧНАЯ АДУКАЦЫЯ Ў РЭСПУБЛІЦЫ». Мэта яе — прыцягнуць увагу шырокай грамадскасці да праблем нацыянальнай сістэмы гістарычнай адукацыі.

◆◆◆

*ПА ЗАПРАШЭННІ МЯСЦОВАЙ ФІЛІІ БСДГ СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ НАВЕДАЎ ГРОДНА. На сустрэчы з ім у ДК хімікаў была прынята рэзалюцыя, адзін з пунктаў якой — прасіць С. Шушкевіча даць згоду на вылучэнне сваёй кандыдатуры на мяркуемых прэзідэнцкіх выбарах.*

◆◆◆

КАЛІ ВЫБАРЫ ПЕРШАГА ПРЭЗІДЭНТА БЕЛАРУСІ АДБУДУЦЦА ГЭТЫМ ЛЕТАМ, то яны будуць каштаваць (па курсу лютага) 116 мільярдаў рублёў. З чыйго кашалька?

---

*СЬВЯТЫ ЧАС ВЯЛІКАГА ПОСТУ ЁСЬЦЬ ДЛЯ ХРЫСЬЦІЯНІНА ЧАСАМ ЗАМІРЭНЬНЯ З БОГАМ І З ЛЮДЗЬМІ, ЧАСАМ УЗАЕМНАГА ПРАБАЧЭНЬНЯ. КАБ МЫ ХАЦЕЛІ ШТОДЗЕННА МАЛІЦЦА РАЗАМ СА СЬВЯТОЙ ЦАРКВОЙ УСХОДНЯГА АБРАДУ СЛОВАМІ МАЛІТВЫ СЬВЯТОГА ЕФРЭМА (АХРЭМА) СЫРЫНА:*
*— ГОСПАДЗЕ І УЛАДАРУ ЖЫЦЬЦЯ МАЙГО, ДУХА ЛЕНАСЬЦІ, НУДЫ, УЛАДАЛЮБСТВА І МАРНАСЛАЎЯ НЯ ДАЙ МНЕ.*
*— ДУХА ЧЫСЬЦІНІ, ПАКОРЫ, ЦЯРПЛІВАСЬЦІ І ЛЮБОВІ ДАЙ МНЕ, СЛУЗЕ ТВАЙМУ.*
*— ТАК, ГОСПАДЗЕ УЛАДАРУ! ДАЙ МНЕ БАЧЫЦЬ МАЕ ПРАВІНЫ І НЕ АСУДЖАЦЬ БРАТА МАЙГО, БО ТЫ БЛАСЛАВЁНЫ НА ВЯКІ ВЯКОЎ. АМІНЬ.*

---

*Ніл ГІЛЕВІЧ*

## Нічога дзіўнага

*Сыны і дочкі матухны-зямлі!*
*Вы бачыце, як сатанеюць тыя,*
*Што ў нашых душах так і не змаглі*
*Усмерціць мовы зернеткі жывыя?*

*І ад таго, што сёння на сяўбе*
*Мы марым пра жніво,*
*пра песень копы,—*
*Ажно равуць, выходзячы з сябе,*
*Гвалтаўнікі яе і далакопы.*

*Ім мала ёй адмовіць у правах,*
*Ёй — чыстай, зіхаткой, як сонца*
*ў росах.*
*Ім трэба ўзнізіць, збэсціць, апляваць,*
*Паздзекавацца ў самы розны спосаб.*

*Што ж! Дзіўнага нічога тут няма:*
*Яны прывыклі мець на гэта права.*
*Ім гэта можна! Хіба ж задарма*
*Шануе, цэніць, любіць іх «дзяржава»?*

*Ім можна ўсё! — Упэўнены яны.*
*І нават мову камяніць астрожна.*
*А нам што можна, дочкі і сыны?*
*Ці думаеце вы: а нам што можна?*

*Ці ў нас усіх правоў, што шапку зняць*
*І подлы страх адкашляць перад п'яўкай:*
*«Панок, дазвольце мне пакачаваць*
*У роднай хатачцы маёй, пад лаўкай».*

---

*Жыццё Таварыства*

## Новая арганізацыя ТБМ

Прыхільнікі роднага слова нарэшце згуртаваліся ў адным з самых забруджаных Чарнобылем раёнаў Беларусі — Нараўлянскім. Тут нядаўна створана раённая арганізацыя Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, у склад якой увайшлі пераважна мясцовыя работнікі асветы і культуры. Старшынёй рады абрана дырэктар сярэдняй школы № 2 райцэнтра Раіса Мілун.

Перад арганізацыяй стаіць шмат адказных задач: далучэнне жыхароў раёна да скарбаў роднай мовы і культуры, даследаванне і вывучэнне моўных і культурных асаблівасцей Нараўляншчыны, развіццё краязнаўства.

Падкрэслім, што рэалізоўваць гэтыя планы давядзецца ў вельмі складаных умовах, звязаных з вынікамі Чарнобыльскай трагедыі: у раёне значна ўзраслі захворванні дзяцей, людзей адсяляюць з моцна забруджаных тэрыторый, у сувязі з чым вёскі пусцеюць. Сярод людзей, да таго ж, пануюць далёка не аптымістычныя настроі.

Хочацца спадзявацца, што актывісты ТБМ Нараўлянскага раёна разам з органамі ўлады паспяхова вырашаць свае праграмныя задачы, нягледзячы на вельмі складаныя ўмовы жыцця і працы ў Чарнобыльскай зоне.

Г. В.

---

## 2 сакавіка адбылося пасяджэнне сакратарыята ТБМ імя Ф. Скарыны

Разглядаліся наступныя пытанні: «Аб рэгістрацыі «Саюза беларускае каталіцкае моладзі», «Аб дзейнасці камісіі па мове ў сродках масавай інфармацыі», «Аб дзейнасці камісіі «Мова ў рэлігійных канфесіях», «Падрыхтоўка да пасяджэння Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны».

Асабліва цікавым атрымалася абмеркаванне двух апошніх пытанняў. Так, айцец Ян Матусевіч адзначыў, што уніяты ўжо неаднойчы звярталіся да прадстаўнікоў усіх хрысціянскіх канфесій Беларусі, каб разам абмеркаваць пытанне аб стане беларускай мовы ў канфесіях, але адказу дагэтуль не атрымалі.

Айцец Ян адказаў на шматлікія пытанні прысутных, выслухаў прапановы сяброў сакратарыята. Урэшце рэшт было вырашана, каб аналагічны зварот Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны афіцыйна накіравала ўсім хрысціянскім канфесіям.

Па чацвёртаму пытанню выступіў намеснік старшыні ТБМ імя Ф. Скарыны Сяргей Запрудскі.

Намеснік старшыні ТБМ Яўген Цімараў прапанаваў праект конкурсу на лепшую рэгіянальную арганізацыю і калектыўную сябрыну Таварыства, які быў аднагалосна зацверджаны.

Генадзь ВІНЯРСКІ.

---

*У газетах*

## Духоўнасць — таксама надзённы хлеб

Штотыднёвік Беларускага саюза фермераў «Новая зямля» (№ 3, 28 студзеня г.г.) адвёў цэлую паласу матэрыялу Сяргея Грыба «Выратавальная саломінка — нацыянальная царква». «У гісторыі беларускага народа,— піша аўтар,— царква адыграла незвычайную ролю. Менавіта праз царкву два вялікія суседнія народы (рускія і палякі) імкнуліся падпарадкаваць Беларусь, зрабіць яе Паўночна-Заходнім краем ці Крэсамі Всходнімі». Аўтар лічыць, што гэта процістаянне, якое і зараз раз'ядноўвае нашых грамадзян, знікне толькі тады, калі і царква і касцёл стануць у поўным сэнсе беларускімі.

Вельмі прыемна, што рэдакцыя фермерскай газеты разумее: духоўнасць — таксама надзённы хлеб, не менш важкі за свежы бохан на стале селяніна.

---

## Больш смеласці!

Такую назву мае артыкул, змешчаны ў газеце Салігорскай арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны «Рагнеда» (№ 2, снежань 1993 г.). Дзеля паскарэння вяртання матчынай мовы ў наш паўсядзённы побыт аўтар лічыць неабходным, каб усе, хто працуе непасрэдна з людзьмі (настаўнікі, службоўцы, медыкі, прадаўцы і г. д.), самастойна авалодалі дзяржаўнай мовай рэспублікі да верасня гэтага года. На думку аўтара, усе школы на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь да пачатку наступнага навучальнага года абавязкова павінны стаць беларускамоўнымі, дзе руская мова будзе вывучацца нароўні з замежнай.

Калі нават расцэньваць такія прапановы ў якасці праявы экстрэмізму, то варта, відаць, улічыць, што яны ў першую чаргу абумоўлены непаслядоўнасцю ажыццяўлення Закона аб мовах, а то і ўвогуле поўным ігнараваннем яго на месцах.

М. В.

*Як выконваецца Закон аб мовах*

# НІХТО НЕ СКАРДЗІЦЦА, А ПАДЗЯКІ АД ПАСАЖЫРАЎ ЁСЦЬ

Сакратарыят ТБМ імя Ф. Скарыны нядаўна атрымаў падрабязную інфармацыю міністра транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь спадара С. Шкапіча «Аб ходзе выканання Закона аб мовах і Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы ў сістэме міністэрства». У згаданым дакуменце адзначана, што летась звыш 2000 кіраўнікоў падраздзяленняў Беларускай чыгункі, Беларускага аб'яднання грамадзянскай авіяцыі, іншых арганізацый, устаноў і прадпрыемстваў, падпарадкаваных міністэрству, вывучалі родную мову на спецыяльных курсах, якія працавалі ў розных гарадах Беларусі. Ва ўсіх структурах галіны ўводзіцца беларускамоўнае бягучае і справаздачнае справаводства, дзеля чаго большая частка друкарскіх машынак пераабсталявана на беларускі шрыфт. Транспартныя прадпрыемствы рэспублікі змянілі пячаткі, штэмпелі і афіцыйныя бланкі, шыльды на сваіх будынках, афармілі службовыя памяшканні на дзяржаўнай мове нашай краіны.

З інфармацыі міністра вынікае таксама, што родная мова паспяхова ўкараняецца ва ўсёй галіне. Добры прыклад у гэтай справе падаюць абласныя аўтатранспартныя прадпрыемствы. Так, у аб'яднанні «Брэстаблаўтатранс» аб'явы па мясцовай трансляцыйнай сетцы на ўсіх аўтавакзалах і аўтастанцыях робіцца па-беларуску. Аўтатранспартнікі Брэста друкарскім спосабам выдалі беларускамоўныя «Правілы перавозак пасажыраў і багажу ў маршрутных аўтобусах Рэспублікі Беларусь», «Памятку пасажыру аўтобуса», «Пералік пасажыраў, маючых ільготы на праезд у аўтобусах». Гэтымі дакументамі, якімі забяспечаны аўтапаркі, аўтастанцыі і аўтавакзалы, аўтакасы і аўтобусы, людзі ўжо кожны дзень карыстаюцца. У арэндным вытворчым аб'яднанні «Гроднаблаўтатранс» беларускамоўныя шыльды, іншая візуальная інфармацыя для пасажыраў маюцца ў чатырох аўтавакзалах, сарака аўтобусных станцыях і аўтакасах. Шыльдачкі з назвамі аўтобусных маршрутаў вобласці (іх усіх, дарэчы, сёння налічваецца 639) таксама выкананы пабеларуску, яны зараз ёсць на кожным аўтобусе. На курсах роднай мовы, створаных у аўтапарках Гродзеншчыны, летась па васьмі-дзесяцігадзіннай праграме займалася звыш двухсот чалавек.

Не адстаюць ад калег-аўтатранспартнікаў і нашы чыгуначнікі. У згаданай інфармацыі міністр С. Шкапіч, у прыватнасці, паведаміў: «На Беларускай чыгунцы — ва ўсіх прадпрыемствах і арганізацыях, на станцыях — у асноўным завершаны дэмантаж састарэлых надпісаў... Зроблены заказ на выраб на беларускай мове білетаў-купонаў і вокладак купонных кніжак для афармлення праезду пры міжнародных зносінах, а таксама вагонных маршрутных дошак. Ужо выпушчаны па-беларуску афіцыйныя бланкі падраздзяленняў чыгункі і асабовыя пасведчанні для чыгуначнікаў... На беларускай мове выкананы шыльды 184 лінейных станцый і 19 прадпрыемстваў. У тэхнікумах чыгункі ўведзены курс беларускай мовы і літаратуры. У дашкольных установах чыгункі родную мову вывучаюць 47 дзіцячых груп».

Аўтар гэтых радкоў, часта карыстаючыся паслугамі Беларускай чыгункі, апошнім часам меў неаднойчы магчымасць упэўніцца, што на вагонах прыгарадных электрычак, міжгародніх пасажырскіх цягнікоў знікла былая савецкая сімволіка з архаічнай абрэвіятурай «МПС» (Министерство путей сообщения), што яе месца занялі вялікія літары «БЧ» (Беларуская чыгунка), упрыгожаныя прафесійнай эмблемай чыгуначнікаў.

Каб бліжэй і паўней азнаёміцца з ходам рэалізацыі Закона аб мовах на транспарце, карэспандэнт «Нашага слова» звярнуўся да начальніка ўпраўлення кадраў і навучальных устаноў Міністэрства транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь Яўгена Ліскаўца, які непасрэдна курыруе гэта пытанне. Адразу высветлілася, што спадар Ліскавец цудоўна валодае роднай мовай, бо нарадзіўся ў Кобрыне, скончыў там беларускую школу. Напэўна таму ён дагэтуль прыхільна, з удзячнай павагай ставіцца да ўсяго, што звязана з нацыянальнай годнасцю беларусаў.

Начальнік упраўлення паведаміў карэспандэнту газеты, у прыватнасці, што ажыццяўленне Закона аб мовах на беларускім транспарце было разгледжана 26 жніўня мінулага года на спецыяльнай калегіі міністэрства. Падсумаваўшы вынікі, калегія намеціла канкрэтныя захады, выкананне якіх павінна забяспечыць далейшае пашырэнне ўжытку дзяржаўнай мовы рэспублікі ва ўсіх галінах нашага транспарту. Называючы цяжкасці, якія сустракае ў сваім развіцці згаданы працэс, спадар Ліскавец падкрэсліў, што ўся гэта работа вымагае шмат сродкаў, бо цэны літаральна на ўсе непазбежныя выдаткі, звязаныя з паступовым пераходам транспарту на беларускую мову, растуць і растуць. Не меншай перашкодай застаецца і тое, што нашы транспартнікі дагэтуль не маюць свайго прафесійна-вытворчага беларускамоўнага слоўніка. Але ў міністэрстве спадзяюцца, што ў тым выпадку, калі цяперашнія тэмпы беларусізацыі транспарту захаваюцца, то ўжо праз гадоў два родная мова стане рабочай мовай для ўсіх транспартнікаў. На развітальнае пытанне карэспандэнта, ці не сустракаецца ў штыкі беларусізацыя транспарту супрацоўнікамі галіны і, галоўнае, пасажырамі, Яўген Ліскавец з усмешкай сказаў: «Ніхто не скардзіцца, а падзякі ад пасажыраў ёсць!»

Мар'ян ВІЖ.

**МЕРКАВАННІ**

# ЯКАЯ БЕЛАРУСЬ

*(Гледзячы з Масквы)*

Нядаўна ў калядным выпуску віленскай «Нашай нівы» я прачытаў, што беларусы — нацыя з жаночым характарам. Гэта ў пэўнай ступені адпавядае пашыраным штампам: «беларусы — талерантная нацыя», «Беларусь — краіна, дзе нічога не адбываецца», «беларусы ўмеюць працаваць, а не мітынгаваць». Мяркую, што ў беларускай нацыі ёсць не жаноцкасць, а застарэлая застрашанасць. Беларусы не з'яўляюцца нацыяй баязліўцаў, проста іх сучасны стан такі, да якога іх паслядоўна і мэтанакіравана даводзілі ўлады.

Слабыя парасткі беларускага Адраджэння — толькі першыя крокі народнага абуджэння. Якраз таму сённяшні беларускі абывацель успрымае даволі цэнтрысцкую палітычную сілу хрысціянска-дэмакратычнага накірунку — Беларускі народны фронт як нацыянал-радыкальную партыю. Сапраўдных жа нацыянал-радыкалаў у беларускім грамадстве амаль няма. І ў гэтым — слабасць беларусаў, якая не дазваляе большасці грамадзян зразумець нават уласныя выгады жыцця ў сваёй незалежнай дзяржаве.

З пачатку «перабудовы» да жніўня 1991 года ў агульнасаюзным і расійскім друку Беларусь згадвалася амаль выключна як геаграфічнае паняцце, звязанае з Чарнобылем. Пасля жнівеньскага путчу Беларусь стала ўжо называцца месцам, дзе «развалілі Саюз», маючы на ўвазе Белавежскія пагадненні. Але з пачатку наступнага года інтанацыі рэзка змяніліся. У расійскім грамадстве з'явілася пачуццё, што «вялікая Расія» страчвае свае «адвечныя» тэрыторыі. Да таго ж, узровень жыцця на Беларусі ў 1992 годзе і ў першай палове 1993-га быў значна вышэйшы, чым у Расіі. На бытавым узроўні сталі выказвацца думкі, што беларусы аддзяліліся і таму яны жывуць лепш за нас.

Сучаснае расійскае кіраўніцтва ажыццяўляе ўсё больш рашучую імперскую палітыку, развязваючы міжнацыянальныя канфлікты ў розных краінах былога СССР, з мэтаю падначаліць іх сабе і аднавіць імперыю. Пры гэтым з рускага, а пры магчымасці і рускамоўнага насельніцтва гэтых краін Масква стварае сваю «пятую калону», хоць у самой Расіі нікому няма справы да простага рускага чалавека.

Да восені 1993 года для расійскіх сродкаў масавай інфармацыі Беларусь была забытым кутком. Але цяпер з гэтай самай спакойнай краіны СНД інфармацыя палілася ракой.

Самае, што больш за ўсё цікавіць расійскія ўлады,— беларускі транзіт, бо дзяшовае «акно ў Еўропу» для Расіі праходзіць праз Беларусь (чыгуначныя, шашэйныя і паветраныя шляхі, газа- і нафтаправоды, іншыя камунікацыі). Беларусь таксама — пярэдні край стратэгічнай расійскай супрацьпаветранай абароны. Усё гэта складае выдатны «беларускі калідор», за карыстанне якім трэба было б плаціць вялізарныя грошы валютай ці сыравіннымі рэсурсамі. Расія ж дагэтуль ім карыстаецца абсалютна бясплатна! Пакуль часова, але ўрэшце можа так здарыцца, што калі беларускі народ запознена ачуняе ад «спячкі», то самыя смачныя кавалкі ягонага «каравая» будуць ужо поўнай уласнасцю расійскай дзяржавы. Тут можна прыгадаць, напрыклад, пагадненне аб уключэнні беларускай газавай кампаніі ў склад расійскага «Газпрома». У такім выпадку Беларусі наканаваны лёс Панамы. Бо калі самі

# Без авалодання здабыткамі нельга далучыць студэнтаў

Рэктарат Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта добра разумее, што без авалодання здабыткамі нацыянальнай культуры нельга далучыць студэнтаў — будучых настаўнікаў і іх вучняў — да скарбаў сусветнай цывілізацыі. Таму ўсе факультэты гэтай ВНУ сёлета перайшлі на беларускамоўнае выкладанне. Для студэнтаў уведзены новыя прадметы і спецкурсы: «Нацыянальная школа і асвета Беларусі», «Гісторыя, тэорыя і методыка культурна-асветніцкай работы на Беларусі» і інш.

Аб змесце і формах гэтых заняткаў пісаць не буду, бо гэта прадмет асобнай гаворкі, закрану толькі тэму ролі роднай мовы ў нацыянальным адраджэнні і выхаванні школьнікаў. Да слова, гэтай тэме былі прысвечаны рэфераты і адзін з універсітэцкіх семінараў. Студэнты, у прыватнасці, выказвалі здзіўленне паводзінамі дэпутатаў нашага Вярхоўнага Савета, якія нядаўна ўстрымаліся ці не галасавалі за падтрымку роднага слова.

На мой погляд, разважанні студэнтаў былі цікавыя і практычна каштоўныя. Таму мне захацелася пазнаёміць з імі чытачоў «Нашага слова».

Вось выказванні некаторых студэнтаў.

Ігар Афанасенка: «Мова народа — гэта душа і цела народа. Каб знішчыць нацыю, трэба знішчыць мову. Аналіз гісторыі і тэндэнцыі развіцця адукацыі на Беларусі сведчаць, што апошнія доўгі час будавалася без уліку этнакультурных асаблівасцей нашага краю як самастойнага і самабытнага». Ігар прывёў такі прыклад. У 1914 г. у сельскай мясцовасці беларускіх губерняў існавалі 1173 земскія школы і 220 школ пачатковых. Там навучалася 39 працэнтаў дзяцей ва ўзросце 8—12 гадоў. Але ўсе гэтыя школы былі рускамоўныя. Вывучалася культура Маскоўскай Русі, усяляк падкрэслівалася, што ў сівой даўніне Беларусь — толькі частка Маскоўскага княства, а гісторыя Маскоўскай Русі з'яўляецца адпаведна гісторыяй і Белай Русі. Такім чынам праз зрусіфікаванае навучанне дзятвы цэлая нацыя пазбаўлялася сваёй дзяржаўнай будучыні. Ігар Афанасенка падкрэсліў таксама, што вышэйшую ці сярэднюю спецыяльную адукацыю беларуская моладзь у Расійскай імперыі магла здабыць толькі за межамі роднай Бацькаўшчыны і на чужой мове, на спадчыне іншых народаў. Гэтым можна растлумачыць прычыну таго, што многія таленавітыя беларусы ўсё жыццё служылі інтарэсам суседніх народаў.

Студэнтка Наталля Філатава ў сваім выступленні на канферэнцыі акцэнтавала ўвагу прысутных на тым, што без роднай мовы ў нас ніколі не будзе глыбокай нацыянальнай самасвядомасці. Мова — рэальна дзеючая ў грамадстве сістэма, якая яднае пакаленні людзей, знітоўвае вытокі духоўнай народнай культуры, філасофію, псіхалогію і этыку беларускага этнасу.

А Святлана Мезенцава прачытала выказванне вядо-

**БЕЛАРУСКІ ЧАС У ФОТААБ'ЕКТЫВЕ**




Менск. 22 лютага 1994 года. У дзень, калі сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь працягнула сваю работу, на пляцы Незалежнасці адбыўся мітынг, на якім былі выказаны патрабаванні аб адстаўцы ўрада і датэрміновых выбарах у Вярхоўны Савет.

У людскіх вачах надзея і чаканне. Але колькі можна чакаць?

Фота Я. КАЗЮЛІ, БЕЛІНФАРМ.

МЕРКАВАННІ

беларусы пачнуць гаспадарыць у сваім доме, то Расія непазбежна прыменіць войскі для абароны расійскай маёмасці.

А зараз расійскай дзяржаве патрэбна «сохранение» купку і нафты, і газу, і ўсяго іншага, чаго ёй пакуль не хапае.

Беларусі трэба вельмі хуткімі тэмпамі ісці па шляху эканамічных рэформ. Інтэграцыю ж варта праводзіць

# ПАТРЭБНА РАСІІ?..

ў Беларусі «стабильности», а дакладней, — краіна-калонія, цалкам залежная ад метраполіі эканамічна і палітычна, марыянетачная дзяржава, адсталая культурна-эканамічна і палітычна, урад якой будзе глядзець Крамлю ў рот. Расіі патрэбны спакойны і стабільны «беларускі калідор», танныя беларускія харчы і тавары ў абмен на бязважкія папяровыя грошы. Маскве патрэбны таксама голас Беларусі ў ААН, які б пакорліва галасаваў па падказцы «старэйшага брата».

Ці ёсць выйсце з такога становішча? Ёсць, безумоўна! Галоўнае — каб новы патрыятычны ўрад арыентаваўся не на Расію, не на Польшчу, Амерыку ці Нямеччыну, а толькі на свае ўласныя нацыянальныя інтарэсы. Што да стасункаў з Расіяй, то тут неабходна супрацоўніцтва і сяброўства на роўных. А за «беларускі калідор» трэба браць грошы. Гэта дасць Беларусі сродкі на закупку... не ў нестабільную і непрадказальную Расію, а ў багатую і надзейную Еўропу. Але больш разлічваць на забеспячэнне ўласнай сыравінай, абапіраючыся пераважна на свае сілы. Беларусь багатая карыснымі выкапнямі: бурым вугалем, нафтай (якая неашчадна здабываецца, таму большая частка яе застаецца ў нетрах), меддзю, бурштынам і іншым. Праўда, амаль усё гэта не распрацоўваецца. Безумоўна, спатрэбяцца інвестыцыі, таму неабходна прыцягнуць заходнія фірмы на ўмовах, выгадных для абодвух бакоў. Што да «рублёвай зоны новага тыпу», то яна сябе паказала ўжо, а ў бліжэйшы час прадэманструе яшчэ яскравей, калі ўзровень беспрацоўя стане вышэйшым за адпаведныя расійскія паказчыкі.

**Генадзь ЛЕХ,**
**кандыдат тэхнічных навук, намеснік старшыні Маскоўскага Таварыства беларускай культуры імя Ф. Скарыны.**

# нацыянальнай культуры да скарбаў сусветнай цывілізацыі

мага расійскага педагога мінулага стагоддзя К. Д. Ушынскага аб тым, што ў кожнай мове адлюстроўваецца не толькі прырода роднага краю, але і сам край, адухаўляецца ўвесь пэўны народ.

Вячаслаў Харытонаў адзначыў, што, на жаль, немалая частка нашай моладзі яшчэ стаіць убаку ад барацьбы за адраджэнне роднага слова. За гэткую недаравальную абыякавасць ён абвінавачвае ў першую чаргу школу, настаўнікаў, старэйшае пакаленне. Ён упэўнены, што ў Асіповіцкай сярэдняй школе, дзе дырэктарам народны дэпутат Вярхоўнага Савета Р. Самусевіч, вядомы сваімі выступленнямі ў парламенце супраць беларускасці, беларускіх духам не пахне.

Таццяна Сямашка падкрэсліла, што двухмоўе ў сучасны момант не дапушчальна. Яго, хіба, можна супаставіць з пахаваннем роднага слова. Яно не толькі знішчыць беларускую мову, а непазбежна наблізіць і знікненне беларускай нацыі. Дэпутаты, якія не надтрымалі беларускую мову, фактычна служаць суседняй дзяржаве.

Заўважу, што ніводны студэнт універсітэта на семінары не выказаў абразы на адрас іншых народаў. Студэнты разумеюць, што ворагі беларушчыны — не суседнія народы, а носьбіты ідэі вялікадзяржаўнага шавінізму.

Мяне радуе, што ў студэнтаў расце пачуццё нацыянальнай годнасці. Спадзяюся, што развагі будучых педагогаў і практычных псіхолагаў пра лёс роднай мовы дадуць штуршок для абмеркавання набалелых праблем беларускага Адраджэння ў калектывах школ, ва ўсіх арганізацыях і ўстановах, дзе працуюць шчырыя прыхільнікі роднага слова.

**Леанід ЦЫГАНКОЎ,**
**палкоўнік у адстаўцы, кандыдат гістарычных навук, дацэнт.**

Рэха

# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ГОДНАСЦЬ І ЧЭСНАЯ ПРАЦА НА КАРЫСЦЬ АЙЧЫНЫ — У ГЭТЫМ НАШ ПАРАТУНАК

**У № 6 за 1994 г. «Нашага слова» надрукаваны вельмі цікавыя і актуальныя меркаванні — «Правілы чэшскай сям'і — для сённяшніх беларусаў». Лічу, што наш замардаваны беларускі народ пачне лепш жыць толькі тады, калі будзе адчуваць сябе гаспадаром у сваёй роднай хаце, а не кватарантам, як зараз. А гаспадаром ён можа стаць толькі тады, калі навучыцца сябе паважаць, пачне размаўляць на роднай мове, так, як зрабілі народы прыбалтыйскіх краін.**

**Няма ўжо ніякага спадзявання, што наш урад зробіць нават малыя крокі для адраджэння нацыі. Вось чаму мае спадзяванні толькі на свядомую інтэлігенцыю, якая была, ёсць і будзе светачам нашага народа. І тое, што зрабіла калісьці чэшская інтэлігенцыя для чэшскага народа, павінна зрабіць беларуская (літоўская) для свайго народа.**

**У часы апошняй вайны я змагаўся супраць гітлераўцаў у радах арміі СССР, якая, з аднаго боку, вызваляла народы ад фашысцкіх агрэсараў, але ж, з другога — умацоўвала камуністычную расійскую імперыю, бо ніхто нават пад пільнай увагай бальшавіцкіх органаў нават пікнуць пра самастойнасць уласнай Радзімы не мог, а ў дадатак камісары ўсім тады заляпілі вочы і заткнулі вушы.**

**Зараз я чытаю многія беларускамоўныя выданні, але з усіх на першае месца паставіў бы «ЛіМ» і «Наша слова», якія адкрываюць вочы на нашу мінуўшчыну, хто мы і адкуль родам. І калі б зноў прыйшлося ваяваць, то не пашкадаваў бы жыцця менавіта за нашу мову, нашы традыцыі, культуру.**

**Дык вось і хачу звярнуцца да рэдакцыйных калегій гэтых газет з просьбай згуртаваць свядомыя колы нашай інтэлігенцыі і зрабіць такія Правілы для нашага народа. Спадзяюся, патомкі нашы будуць за гэта інтэлігенцыі вельмі ўдзячныя і ўспамінаць будуць добрым словам.**

**Леў АРМОНІК,**
**ветэран вайны і працы.**

*АД РЭДАКЦЫІ. Дзякуем за добрыя словы шаноўнаму чытачу. Што да Правіл, то будзем іх выпрацоўваць разам, усім народам. Дарэчы, упэўнены, нашы чытачы звярнулі ўвагу на публікацыю ў № 8 «Нашага слова» нататак палкоўніка запасу Л. Цыганкова — «Сённяшняе прачытанне Ядвігіна Ш.», дзе шаноўны ветэран уносіць свае прапановы аб правілах паводзін для свядомых беларусаў.*

**ПАСТАНОВАЙ САВЕТА МІНІСТРАЎ СМОЛЬГАЙСКАЙ СЯРЭДНЯЙ ШКОЛЕ ЛЮБАНСКАГА РАЁНА ПРЫСВОЕНА** імя вядомага паэта-дэмакрата Уладзіслава Сыракомлі.

◆◆◆

«Клуб і народная творчасць» – часопіс, які выйшаў у Магілёўскім абласным навукова-метадычным цэнтры народнай творчасці і культасветработы. Выдаецца часопіс на беларускай мове адзін раз у квартал.

**Айцец Сэргіюш Гаек, Візытатар для беларускіх грэка-каталікоў у менскай капліцы святой Эўфрасінні Полацкай сказаў Велікапоснае слова-пасланне веруючым. Важнасьць у грамадзкім аспекце гэтага паслання заключаецца ў тым, што ўпершыню афіцыная асоба Апостальскае сталіцы, сьледам за папай Янам Паўлам Другім, зьвяртаецца да беларускіх вернікаў у іх роднай мове.**

**Па даручэньні Сьв. Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў а. Гаек увосень мінулага году адведаў грэка-каталіцкія парафіі ў нашай краіне і склаў адпаведную справаздачу перад Сьвяцейшым Айцом. Да канчатковага вырашэння пытання аб кіраўніцтве Грэка-Каталіцкай Царквы на Беларусі а. Гаек прызначаны Візытатарам для беларускіх каталікоў бізантыйскага абраду, Відавочна, што гэтае пасланне ёсьць знакам рэакцыі кіраўніцтва Каталіцкай Царквы на працэсы рэлігійна-культурнага адраджэння на Беларусі.**

Ігар ІВАНОЎ,
сябра рэдакцыі часопіса «Унія».

*Айцец Сяргей ГАЕК.*

# Час замірэння з Богам і людзьмі, час узаемнага прабачэння

**Дарагія Браты і Сёстры ў Госпадзе!**

**З вялікай радасьцю спатыкаюся сёньня з вамі. Дзякую Ісусу Хрысту — Чалавекалюбцу за дар гэтага спатканьня.**

**Па нашым папярэднім спатканьню — у верасьні мінулага году (1993) — я меў магчымасьць перадаць сьвятому Айцу Яго Сьвятасьці Яну Паўлу Другому інфармацыю аб вашым жыцьці і патрэбах, духоўных і арганізацыйных.**

**Сьвяты Айцец прагне зрабіць усё, што магчыма, каб падтрымаць вас у вашым жыцьці веры. Ён памятае а вас, як частцы паўсюднай Царквы на Беларускай зямлі. Ваша змаганьне за развіцьцё рэлігійнага і грамадзкага жыцьця ў незалежнай Беларусі падтрымлівае Ён сваёй малітвай і благаславенствам, аб чым пісаў у сваім Лісьце да Беларускага Народу на пачатку гэтага году.**

**Прагну таксама пераказаць вам словы прывітаньня ад Яго Эмінэнцыі Кардынала Акілле Сільвэстрыні — Прэфэкта Сьвятой Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў, а таксама ад Яго Эксэленцыі арцыбіскупа Габрыеле Монтальво — Апостальскага Нунцыя на Беларусі.**

**Вось стаім на парозе Вялікага Посту — часу нашага навяртаньня і аднаўленьня Запавету з Богам.**

**Дарагія Браты і Сёстры, мы ўсе патрабуем навяртаньня і вытрывалага поступу дарогай веры, гэта значыць жыцьця згодна з Эвангеллем. Горача прашу вас усіх, каб вы хацелі выкарыстаць час Вялікага Посту як час паглыбеньня хрысьціянскага жыцьця.**

**Прашу вас, Браты і Сёстры, каб у гэтым сьвятым часе кожны з вас задумаўся, што азначаюць для яго словы сьвятога апостала Паўла:**

**«Прашу вас праз Міласэрдзе Божае, аддайце целы вашыя на ахвяру жывую, сьвятую, угодную Богу, на разумнае служэньне вашае.**

**[...] Пераабражайцеся абнаўленьнем розуму вашага, каб вам пазнаваць, што ёсьць Воля Божая, добрая, угодная і дасканалая» (Рым, 12, 1-2).**

**Сьвятая Паўсюдная Царква адзначае ў гэтым годзе ва ўсім сьвеце Год Сям'і. Мы ўсе пакліканы да аднаўленьня хрысьціянскага жыцьця ў нашых сем'ях. Гэта будзе наш вялікі ўклад у аднаўленьне грамадзкага жыцьця ў нашай Бацькаўшчыне — Богаўлюбленнай і шматпакутнай Беларусі.**

**Мы пакліканы да яснага сьведчаньня нашай веры перад іншымі. Гэта магчыма толькі ў духу ўзаемнай еднасьці і любові. Таму прыпомнім сабе таксама ў часе Вялікага Посту словы сьвятога Паўла з Першага Лісту да Карыньцянаў:**

**«Малю вас Іменем Госпада нашага Ісуса Хрыста, каб усе вы былі ў згодзе і ня было б між вамі падзелаў, але каб вы злучаны былі ў адным розуме і ў адной думцы» (1 Кар 1, 10).**

**Сьвяты час Вялікага Посту ёсьць для хрысьціяніна часам замірэньня з Богам і з людзьмі, часам узаемнага прабачэньня. Каб мы хацелі штодзённа маліцца разам са Сьвятой Царквой Усходняга Абраду словамі малітвы сьвятога Ефрэма (Ахрэма) Сырына:**

**— Госпадзе і ўладару жыцьця майго, духа ленасьці, нуды, уладалюбства і марнаслоўя ня дай мне.**

**— Духа чысьціні, пакоры, цярплівасьці і любові дай мне, слузе Твайму.**

**— Так, Госпадзе ўладару! Дай мне бачыць мае правілы і не асуджаць брата майго, бо Ты благаславёны на вякі вякоў. Амінь.**

**На час Вялікага Посту і надыходзячае сьвята Пасхі Гасподняй прыпомнім яшчэ навуку сьвятога Кірыла, біскупа старога беларускага горада Турава:**

**«Нам, браты, як тым, хто ёсьць Народам Божым, належыцца славіць Хрыста, які нас палюбіў.**

**Прыйдзіце, паклонімся Яму і прыпадзём да Яго [...].**

**Адступім [...] ад кепскіх учынкаў.**

**[...] Пасьпяшым за Ім праз пакору, пост і чуваньне!**

**І ня страцім труду саракадзённага посту».**

***(Слова на Вербную Нядзелю).***

**Прагну прыкласьці яшчэ словы пакутнай малітвы з «Канона малебнаго» сьвятога Кірыла Тураўскага:**

**«[...] Ты, Божа, будучы ўсемагутным, зрабі зноў дабраплоднымі маю зьнямажаную грахамі душу і маё апусьцелае сэрца: у пакоры духу прыношу Табе гэтую малітву.**

**[...] Ты, Хрысьце, ёсьць вельмі літасьцівы і не жадаеш сьмерці грэшніка: запалі ліхтар Твайго міласэрдзя і знайдзі мяне**

**— Тваю драхму — і, пазваўшы сьвятых суседзяў, зрабі радасць для ўсіх ангелаў і людзей».**

**Тэкст гэтай старажытнай беларускай малітвы я цытую ў перакладзе вельмі паважанага айца Аляксандра Надсона, які пераклаў таксама і іншыя літургічныя тэксты на сучасную беларускую мову.**

**Тут прагну выказаць айцу Аляксандру вялікую ўдзячнасьць за яго труд разкрыцьця багацтваў сьвятой Літургіі ў роднай мове. Паводле таго, як пісаў сьвяты апостал Павал: «Каб кожны язык вызнаваў, што Ісус Хрыстос — Госпад на славу Бога Айца» (Філіп. 2, 11).**

**У нашых малітвах просьма аб шчодрым Божым благаславенстве для айца Аляксандра.**

**У вашых малітвах, Дарагія Браты і Сёстры, памятайце таксама а сьвятарах і дыяканах, якія ахвярна вам служаць. Хай Госпад Бог захавае іх у сваёй ласцы і здароўю на «доўгія і добрыя гады!»**

**Маліцеся таксама горача, улюбленныя Браты і Сёстры, аб Божым благаславенстве для ўсіх хлопцаў і дзяўчат, якія прагнуць прыгатавацца да сьвятарства і да манашага жыцьця і хочуць служыць сьвятой Хрыстовай Царкве на Беларусі. Успамагайце іх хрысьціянскай апекай і дапамогай.**

**«Усё ў вас няхай у любві робіцца» (1 Кар. 16, 14).**

**«І хай будуць міласьці вялікага Бога і Збаўцы нашага Ісуса Хрыста з усімі вамі. Амінь».**

**Ватыкан — Менск, Вялікі Пост 1994 году.**

# Вучымся!

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

Мікалай КРЫЎКО

ПАГРАЖАЛЬНЫ (які ўтрымвае ў сабе пагрозу, выражае пагрозу) *Пагражальны тон,* ПАГРОЗЛІВЫ *Хлопец увесь час адчуваў калючы, насцярожаны, пападжальны і пагрозлівы бацькаў позірк* (Шамякін), ПАГРОЗНЫ *Аднаго разу пагрознае гудзенне* [*самалёта*] *пранеслася над самымі хвоямі* (Лынькоў).

1. ПАГРАЖАЦЬ (абяцаць зрабіць якое-н. зло, непрыемнасць і пад.) *Дарэмна я пагражаў, што пайду на фронт самавольна, без дазволу* (Лупсякоў), ГРАЗІЦЬ [*Урадні*к] *лаяўся, гразіў, абяцаў арыштаваць..* (Чарнышэвіч), ГРАЗІЦЦА *Не цвёрдая ў бомбы слава, Грaзіцца ёю зарана. Не хітрая, урэшце, справа Адолець атам урана* (Куляшоў). [*Толік*] *прычапіўся на вуліцы да Максіма, кідаўся біцца, гразіўся і блізка не падпусціць да матчынага парога...* (М. Стральцоў).

2. ПАГРАЖАЦЬ (з інфінітывам або чым; утрымліваць у сабе якую-н. пагрозу, небяспеку) *Здрадлівая дрыгва пагражала зацягнуць у сваю багну кожнага, хто аступіцца або зробіць неасцярожны крок* (Колас), ГРАЗІЦЬ *Токар не струсіў: яго перакошаны ад гневу твар гразіў старшыні заўкома непрыемнымі сюрпрызамі* (Гартны) // (звычайна каму-чаму; пра што-н. непрыемнае: павінна быць, быць непазбежным для каго-, чаго-н.) *Міша не ведаў, ні што такое гангрэна, ні што такое ампутацыя. Адно толькі зразумеў, што лейтэнанту пагражае нешта страшнае* (Курто).

ПАДАБЕНСТВА (наяўнасць агульных або падобных рыс) *Тацянка ў кожнай кветцы знаходзіла падабенства з кім-небудзь* (Юрэвіч), ПАДОБНАСЦЬ *Падобнасць гукаў,* АНАЛОГІЯ (падабенства ў якіх-н. адносінах паміж рэчамі ці з'явамі) *Вонкавая аналогія.*

ПАДАГНАЦЬ (прымусіць рабіць або рабіцца што-н. хутчэй) — *Трэба адзявацца ды выходзіць на месца,— падагнала сама сябе Зося і хутка павярнула ў хату* (Гартны), ПРЫСКОРЫЦЬ *Прыскорыць расказчыка,* ПАСКОРЫЦЬ *Паскорыць будаўніцтва,* ПРЫСПЕШЫЦЬ і ПРЫСПЯШЫЦЬ *Дзяўчына.. зірнула на..* [*Паўла*] *і перастала пісаць. Але Маша прыспешыла яе..* (Гроднеў). *Прыспяшыць справы.*— Незак.: **падганя́ць, прыско́рваць, паскара́ць, паско́рваць, прыспе́шваць, прыспяша́ць.**

1. ПАДАГНУЦЬ (загнуць край, канец чаго-н. усярэдзіну або пад што-н.; загнуўшы краі, зрабіць што-н. карацейшым) *Падагнуць прасціну пад матрац,* ПАДГАРНУЦЬ *Падгарнуць посцілку пад сяннік,* ПАДХІЛІЦЬ *Падхіліць хустку пад каўнер,* ПАДХІНУЦЬ *Падхінуць хустку.*— Незакончанае трыванне: **падгіна́ць, падгіба́ць, падго́ртваць, падхіля́ць, падхіна́ць.**

2. ПАДАГНУЦЬ (падцягнуць пад сябе або прыціснуць да сябе ногі, калені і пад.) [*Маня*]... *падагнула пад сябе ногі і падперла твар рукамі* (Чорны), ПАДАБРАЦЬ [*Жанчына*] *зноў падабрала пад сябе ногі, зірнула на хлопца, які нават і не паварухнуўся, і ўздыхнула* (Ракітны), ПАДЦІСНУЦЬ *Малаценькі сабачка падціснуў хвост і стрымгалоў кінуўся ў садовы бункер* (Лужанін), ПАДТУЛІЦЬ *Сабака заенчыў, падтуліў хвост і кінуўся наўцёкі* (Чорны). *Убачыўшы мяне, конь нахмыліўся, падтуліў вушы* (Дамашэвіч), ПАДЦЯЦЬ размоўнае *Паспрабаваў* [*Васіль*] *падцяць пад сябе параненую нагу і не змог. Востры боль укалоў у самае сэрца* (Сачанка), ПАДКУРЧЫЦЬ *Певень, праходзячы каля прызбы, спыніўся, падкурчыў адну нагу...* (Колас), ПАДГАРНУЦЬ разм. *На падлозе, падгарнуўшы пад галаву голыя рукі, стагнаў збіты, акрываўлены чалавек* (Мележ).— Незак.: **падгіна́ць, падгіба́ць, падбіра́ць, падціска́ць, падту́льваць, падціна́ць, падку́рчваць, падго́ртваць.**

ПАДАЗРОНЫ (які выклікае падазрэнне, недавер) *Падазроны чалавек. Падазроны шум,* ЦЁМНЫ *Цёмныя асобы.*

ПАДАЗРЭННЕ (меркаванне аб несумленнасці чыіх-н. намераў, паводзін) *Ясна, што ён быў на падазрэнні і за ім сачылі* (Колас), ПАДАЗРОНАСЦЬ *Дзедаў адказ адвёў падазронасць ад яго асобы* (Колас), ЗАПАДОЗРАННЕ разм. *У Колі было яўнае западозранне, што знікненне папружкі — справа Васілёвых лап* (Якімовіч).

ПАДАРВАЦЬ (аўтарытэт, давер, упэўненасць, веру і пад.; зрабіць менш устойлівым, трывалым) [*Пякарская:*] — *Так ваяваць нельга. Трэба падарваць у іх веру ў свае сілы, упэўненасць у сваю правату* (Гурскі), ПАХІСНУЦЬ *Ужо адзін той факт, сведкам якога быў Лабановіч яшчэ на Палессі і які глыбока запаў яму ў памяць — з'яўленне поезда пасля доўгай забастоўкі чыгуначнікаў,— пахіснуў яго веру ў перамогу рэвалюцыі* (Колас).

ПАДБАДЗЁРЫЦЦА (зрабіць больш бадзёрым, падбавіць бадзёрасці сабе) *Цяпер* [*Стафанковіч*] *так падбадзёрыўся, што пакульгваць пакінуў, і ішоў вельмі шпарка* (Чорны), ПАДХРАБРЫЦЦА *Салдат падхрабрыўся, падкруціў вусы і пачаў прабірацца бліжэй да палаца* (Якімовіч).— Незак.: **падбадзёрвацца, бадзёрыцца, храбрыцца.**

ПАДБУХТОРВАЦЬ (*да чаго, на што* і з інфінітывам: схіляць каго-н. да якога-н. дзеяння, учынку, звычайна нядобрага, непажаданага) *Ніколі ніхто не чуў, каб Моніч каго падбухторваў да бунту* (Сабаленка), БУХТОРЫЦЬ разм. [*Талаш:*] — *Народ збіраць, бухторыць яго на вялікае рушэнне супраць катаў, гвалтаўнікоў* (Колас), ПАДБІВАЦЬ (*на што,* з інф. і без дапасавання) *Янка пераскочыў некалькі разоў цераз полымя і стаў падбіваць мяне на такі ж геройскі ўчынак* (Ляўданскі), ПАД'ЮДЖВАЦЬ разм. *Ты забыўся, як сам пад'юджваў мяне, як заклікаў мяне біць, варушыць усё да грунту* (Зарэцкі) ЗВОДЗІЦЬ разм. *Думаеш — пенсіянер, дык табе і дзела аднаго, што брыду гэтую смактаць? Майго зводзіць?* (Шынклер).— Зак.: **Падбухторыць, падбіць, пад'юдзіць, звесці.**— Параўн. Падгаворваць, Падахвочваць.

*Пры кансультацыі заслужанага работніка народнай адукацыі Беларусі, доктара філалагічных навук, прафесара Леаніда Іванавіча БУРАКА*

## Адасабленне далучальных членаў сказа

1. Далучальныя члены, якія прымацоўваюцца злучнікамі **і, ды, але, і то, ды і то, прычым** і інш., звычайна адасабляюцца і аддзяляюцца ад удакладняемых або паясняемых членаў у сказе коскай: *У вокнах ясней заблішчалі агні, але ненадоўга* (Кузьма Чорны). *Аўгінька адным вокам, ды і то з-пад ілба, пазірала на прысутных* (М. Зарэцкі). *Яна спявала, прычым даволі прыгожа* (Якуб Колас). *Зямля, хоць у лапінах снегу, пахла вясной* (Змітрок Бядуля).

**Заўвага.** У канструкцыях размоўнага стылю далучальныя члены са злучнікам **ды** могуць не адасабляцца (коска тады не ставіцца): *Коціцца крыніца ды з-за гаю, гаю* (П. Трус). *Бачаць, аж Сымон з'явіўся ды з даўжэзнаю касою* (П. Броўка).

2. Калі адасабленне далучальных членаў са злучнікамі падкрэслена з асаблівай сілай, то гэтыя члены аддзяляюцца або выдзяляюцца пры дапамозе працяжніка: *А на пачэсным гэтым месцы садзіўся госць — і то не кожан* (Якуб Колас). *Яго паліто — хоць і з драпу — вельмі вынашана* (С. Баранавых). *Адзін раз — ды і то без мяне — ты была ў маёй хаце часоваю госцяй* (Я. Брыль)

**Заўвага.** Пры большай паўзе і развітасці далучальных членаў (асабліва тых, што найслабей звязаны з іншымі членамі ў сказе) сустракаецца пастаноўка коскі з працяжнікам: *Усё ж такі тут кавалак жыцця пражыты,— і не абы які!* (І. Мележ). *Я жартаў не люблю,— ды яшчэ калі пры першым знаёмстве* (Ц. Гартны).

3. Калі далучальнымі з'яўляюцца аднародныя члены сказа з рознымі злучнікамі, то ў залежнасці ад умоў кантэксту характару інтанацыйнага і сэнсавага выдзялення яны аддзяляюцца коскай або працяжнікам: *Навокал адзін ядловец, і то рэдкі ды нізкі* (А. Кулакоўскі). *Выходжу на луг, на Свіслач шыбую — ды з вудамі, з хлебам, з чарвямі і босы* (Якуб Колас).

4. Калі далучальныя члены ўводзяцца ў структуру сказа словамі і спалучэннямі слоў **да таго ж, у тым ліку, у прыватнасці, напрыклад, галоўным чынам** у функцыі злучнікаў, то незалежна ад свайго месца ў сказе яны адасабляюцца і аддзяляюцца або выдзяляюцца коскай: *Адмовіць чалавеку, да таго ж мясцоваму, ён не меў права* (П. Кавалёў). *Усе палешукі, у тым ліку і стараста, пісаць не ўмелі* (Якуб Колас).

**Заўвага.** Перад названымі сродкамі сувязі можа стаяць злучнік **і**, які выдзяляецца коскамі разам з імі: *Дзяўчына, і да таго ж прыгожая, ішла па вуліцы* (Х. Шынклер). *Вясковыя хлапчукі, і я ў тым ліку, пасвілі коней на лузе* (Змітрок Бядуля).

5. Далучальныя члены, якія ўводзяцца ў структуру сказа словамі і спалучэннямі слоў **нават, асабліва, пераважна, выключна, перш за ўсё** і інш., адасабляюцца і аддзяляюцца або выдзяляюцца коскамі (гэтыя члены перадаюць дадатковыя звесткі неабавязковага, спадарожнага характару): *Дзеці, нават зімой, не любяць сядзець у хаце* (З. Бядуля). *Усё радуецца вясне, асабліва птушкі* (П. Пестрак). *Аздоблен квас быў і грыбамі, выключна ўсё баравічкамі* (Якуб Колас).

**Заўвага.** Перад названымі сродкамі сувязі можа стаяць злучнік-часціца **і**, які выдзяляецца коскамі разам з імі: *Усе птушкі, і нават крыклівыя вераб'і, схаваліся ад навальніцы* (Я. Маўр). *Думкі гэтыя не давалі спакою і больш за ўсё таму, што трывожыла Васіля далейшае* (І. Мележ).

Калі дададныя члены з такімі словамі і спалучэннямі слоў не з'яўляюцца далучальнымі, то яны не адасабляюцца і коскамі не выдзяляюцца (гэтыя члены перадаюць звесткі абавязковага характару): *Дзеці нават зімой не любяць сядзець у хаце. Апетыт палепшаў асабліва ў Мішы. Мікола працаваў часцей за ўсё на камбайне.*

*(Працяг будзе).*

УДАКЛАДНІМ

## Знакі прыпынку пры адасобленых членах сказа

ФІЛАЛАГІЧНЫЯ ЗАГАДКІ

## Як май змаяваў

Пад такой назвай у сёлетнім шостым нумары нашай газеты была надрукавана нататка, у якой мы прапанавалі чытачам паразважаць пра сэнс фразеалагізма «Як май змаяваў». Слушна адказалі нам, што І. Я. Лепешаў у «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы» (т. 2. Мн., 1993. С. 10) так тлумачыць гэтае беларускае народнае параўнанне: «Хто-небудзь бясследна знік, перастаў існаваць, ці што-небудзь раптоўна прапала, знікла».

Аднак нідзе не гаворыцца пра паходжанне гэтага фразеалагізма.

Асмелюся прапанаваць чытачам пашукаць яго карані ў старажытнай індыйскай міфалогіі. І хай не дзівіць вас — такі далёкі ў прасторы і часе — экскурс. Адлегласць толькі на першы погляд вялікая, і адметнасць таксама ўяўная.

Сапраўды, убілі ў галаву нам пра наша «дзеравенскае», а значыць горшае паходжанне. І цяпер нават думка пра параўнанне ці нейкая спроба наблізіцца да іншай славутай, у гэтым выпадку шматтысячагадовай індыйскай культуры некаму ўяўляецца святататствам.

Разгадку паходжання чыста беларускага фразеалагізма «Як май змаяваў» трэба шукаць у старажытнай індыйскай міфалогіі. Менавіта ў ранніх індыйскіх літаратурных помніках — у «Ведах» — з'яўляецца слова **майя**. Яно азначае звышнатуральныя ўласцівасці, якімі валодаюць і багі і дэманы (асуры), а таксама — розныя чарадзействы, пераварочванні (як, прыкладам, наш ваўкалак).

Вось як пачынаецца адзін з самых цікавых індыйскіх міфаў «Разбурэнне Трыпуры». «У далёкія часы жыў магутны асур Майя, сын Віпрачыцці, уладара данаваў», дэманаў-волатаў. (Так і карціць параўнаць асура з нашым казачным асілкам, а ў тых данавах бачыцца дайнова, нейкае, верагодна, славянскае, племя, імя якога захавалася ў шматлікіх беларускіх тапонімах.) Вялікую ён меў сілу, і быў ён штукар, а да таго ж вельмі хітры. Гэта ён стварыў умельства чарадзейскага прымусу, званага паводле яго імя **майя.** Умелы дойлід Майя пабудаваў вялікую крэпасць і назваў яе Трыпурай. Але за здзек над жыхарамі неба магутны Індра (бог-грамавік, як наш Пярун) вырашыў пакараць разбойнікаў-асураў. Доўга працягвалася бітва багоў і асураў, і пачалі багі перамагаць. Тады на знак Майі Трыпура раптам зрушылася з месца, пануралася ў акіян і знікла з вачэй здумелых багоў... Як май змаяваў!

Гэты міф нагадаў мне беларускую легенду пра ўзнікненне возера Свіцязь, на месцы якога раней быў вялікі горад.

Мне могуць запярэчыць: падабенства імя асура Майі і слова май у беларускім фразеалагізме — выпадковае супадзенне. Але такіх «выпадковасцей» можна назбіраць шмат. Адна з самых цікавых, значных — супадзенне шмат якіх сюжэтаў беларускіх народных казак з сюжэтамі індыйскіх міфаў. Прыкладам, у вядомым эпасе «Рамаяна» адзін з сюжэтаў распавядае пра пошукі ўкрадзенай жонкі героя, якая апынулася на залатой гары. І ў беларускай казцы «Шкляныя горы» герой шукае жонку, якая пакінула яго і абяцала сустрэчу ў «шкляных гарах». (Горы ў шмат якіх народаў увасабляюць «той свет».) Індыйскаму і беларускаму героям спрыяюць уладары жывёл, з той толькі розніцай, што таму дапамагаюць малпы, а нашаму — воўк.

Варта зазначыць, што ў індусаў ёсць птушка Гаруда, у іранцаў — птушка Саена, у беларусаў — птушка Палугрыца. Дадамо, што ў беларускай міфалогіі вядомы крылаты воўк — Сімаргл, якога яшчэ называюць «сабакам-птушкай». Яго абагаўлялі носьбіты так званай мілаградскай культуры, што жылі ў паўночна-заходняй частцы Гомельскай вобласці. Менавіта там і бытуе фразеалагізм «Як май змаяваў».

З. СІЦЬКО.

*Абмяркоўваем «Выніковы дакумент Дзяржаўнай камісіі па ўдакладненні правапісу беларускай літаратурнай мовы».*

# І тут «памяркоўнасць»

Ведаю, што мае словы, словы проста беларуса, выхаванага на беларускай мове, але толькі «тэхнара», не мовазнаўцы, не паўплываюць на вынікі прапанаванай дыскусіі, як, дарэчы, і папярэднія мае лісты ў «Слова», але маю намер дадаць і мае «пару грошаў».

Шаноўныя мовазнаўцы! Мне здаецца, адна з істотных прычынаў «пытання аб мяккім знаку» — ягоная трактоўка як знака «змякчальнага», па аналогіі з расійскай моваю. Між тым, як я мыслю, гэты «мяккі знак» ёсць адзін (*не адзіны*, гл. беларускую лацінку!) са спосабаў перадачы на пісьме своеасаблівых гукаў беларускае мовы — «нь», «ль», «зь», «сь», «дзь», якія розняцца ад «мяккага н», «мяккага л», мяккага з», «мяккага с» ды інш. Дарэчы, калі я калісь выказаў сваю пазіцыю светлай памяці акадэміку Бірылу, ён пасьмяяўся з мяне, бо я ламлюся ў адчыненыя вароты.

А калі ж так, дык рацыянальна не рабіць з «вяроўкі» «вервіе простае». Але прызнаць неабходнасць напісання «нь», «ль», «сь», «зь», «ць», «дзь» паўсюды там, дзе яны вымаўляюцца, трэба. Гэтыя выпадкі ўсе, за выключэннем аднаго,— у прыназоўніках «зь», «празь», «церазь» у розных спалучэннях мянуюцца ў пунктах Дакументу. У тым ліку:

у п. 1а — перад «ск» пасля мяккага «н»;

там жа — пасля прыставак, якія канчаюцца на «з» (дзіўна што прыстаўку, якая канчаецца на «з», трэба пісаць праз «зь»);

у п. 1 б — пры абазначэнні мяккасці зычных «з, с, ц, дз» (не проста пісаць, але ўжо «абазначаць мяккасць»);

у п. 1 в — пры абазначэнні мяккіх падоўжаных (падвойных) зычных (чамусьці за выключэннем «дзьдзь»).

Тут хацелася б адзначыць, што такога варыянту, які вызначае ўжытак мяккага знаку ва ўсіх выпадках, мянованых у Дакументу, няма. Мо і тут выяўляецца «памяркоўнасць»?

Хацеў бы таксама падаць заўвагу да прапанаваных Камісіяй правілаў пераносу (гл. п. 12). Традыцыйнае правіла пераносу толькі па складах ёсць тэхнічна нерацыянальнае, хаця б таму, што яно патрабуе падзелу слова на склады, што болей у ніводным правіле Правапісу не ўжываецца. Адмова ад гэтага правіла, дазвол адвольнага пераносу слова, за выключэннем пераносу аднае літары і тых выпадкаў, калі гук перадаецца праз дзве ці тры літары, прыкладам «ль», «нь», «дзь», «дж» ды інш. Такая практыка існуе ў іншых мовах. Яна дазваляе спрасціць працэс набору пры друку, вызваляе ад неабходнасці вырашаць магчымасць пераносу, што дадатна ўплывае на прадукцыйнасць працы наборшчыка, не замінаючы чытачу ў засваенні тэксту.

Больш таго, гэтым мае быць забяспечана больш ашчаднае выкарыстанне паперы, тое, што вельмі часта падаецца як адзін з доказаў нерацыянальнасці ўжытку мяккага знака наогул у тых выпадках, што прапануюцца ў Дакументу. Вось вам, спадарства, і «эканомія» паперы, кампенсацыя ўводзінаў мяккага знака.

Шкада, што ў гэтым Дакументу адсутнічае адзін вельмі істотны аспект — правапіс запазычанняў (гл. «Меркаванні» ў тым жа нумары «Слова»).

Мне давялося сустрэцца з гэтымі праблемамі пры працы над тэрміналагічным слоўнікам «Мётралёгія, кваліметрыя, стандардызацыя», дзе такіх запазычанняў даволі многа.

Традыцыйнае запазычанне з ангельскае, нямецкае, французскае моваў праз расійскую мову стварае эфект «сапсаванага тэлефону». Вазьміце хаця бы той самы назоў «стандард», які ва ўсіх мовах, у тым ліку славянскіх, пішацца праз «д», за выключэннем расійскае, дзе ён пішацца праз «т». Што, праўда, у нямецкай мове гэтае «д» вымаўляецца амаль, як «т», адкуль яно і трапіла ў расійскую мову. Дык ці варта гэтае наяўнае скажэнне правапісу й вымаўлення слова капіяваць у беларускай мове?

А ці не дзіка гучаць «Хілстрыт», «хобі», «ноу-хау», «хол-дзінг», якія мы вычытваем у газетах? Тое ж датычыцца імёнаў. Полька Ганна Сухоцка стае габрэйкаю Ханай Сухоцкай, а пэўнаму пану Гэрбэрту надаецца такое імя, што й пісаць і вымаўляць няёмка.

Традыцыйная адсутнасць парадку, гістарычна ўсталяваны правапіс запазычанняў у расійскай мове не вытрымлівае ніякае крытыкі, а запазычанне правапісу праз расійскую мову — тым больш. У Дакументу ж мы маем такія «істотныя» аспекты: Жана — Жанна, Сюзана — Сюзанна. Вось ужо сапраўды гара нарадзіла мыш. Ці мо гэтая, як кажуць, тэма для наступных дысэртацыяў? А ці не прасцей было б прызнаць неабходнасць рабіць усе такія запазычанні, я маю на ўвазе — сучасныя запазычанні, з арыгінала, з улікам, вядома, правапісу ў другіх славянскіх мовах, прыкладам чэшскай, польскай, украінскай, з улікам фанетычных асаблівасцей беларускае мовы ды да т. п. Якраз з улікам тае «навуковасці» й павагі да традыцыяў, натуральнасці маўлення», пра якія дэкларуецца вялікімі літарамі ў загалоўку.

Вядома, многія спрэчныя варыянты правапісу адпалі б самі сабою, каб паўсюдны ўжытак мела беларуская лацінка, якой, я ўпэўнены, у наш кампутарны век і належыць прыйшласць. Але зараз (будзьма рэалістамі!) можна стасаваць правапіс запазычанняў, скажам, такім шляхам: з ангельскай, нямецкай, французскай ці іншых моваў праз беларускую лацінку да беларускае кірыліцы. Вядома, такі шлях не ёсць найкарацейшы, але «хто проста ходзіць — дома не начуе». Нам жа трэба «начаваць» дома — у сваёй мове. Дык майце ж садзейнічаць нам на гэтым шляху, шаноўныя спадары мовазнаўцы.

Р. ЛЯДАХОВІЧ-ТАМІЛІН,
Беларуская дзяржаўная політэхнічная акадэмія.

МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ І ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ ПРЫНЯЛІ ПАСТАНОВУ.

## ПАСТАНОВА

### *аб правядзенні Рэспубліканскага конкурсу сачыненняў школьнікаў, прысвечанага 50-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў*

У адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 31 снежня 1993 года «Аб мерапрыемствах па святкаванні 50-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў» Міністэрства адукацыі і Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны праводзяць конкурс сачыненняў сярод вучняў агульнаадукацыйных школ па тэме: «Наш гонар, наш боль» на прыз газеты «Наша слова».

У конкурсе прымаюць удзел вучні IX — XI класаў агульнаадукацыйных школ.

Мэта конкурсу — абуджэнне ў вучняў цікавасці да гістарычнага мінулага нашай Радзімы і народа, выхаванне пачуцця гонару і павагі да старэйшага пакалення, развіццё творчых здольнасцей і літаратурна-эстэтычнага густу вучняў.

У сачыненнях вучні выявяць сваё веданне гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, гераічнага подзвігу беларускага народа, велічы яго перамогі над нямецкім фашызмам, падзеляцца думкамі і ўражаннямі ад прачытанага, пачутага з вуснаў удзельнікаў вайны.

У рабоце над сачыненнямі вучні могуць выкарыстаць навукова-пазнавальную і мастацкую літаратуру, матэрыялы музеяў, экскурсій, сустрэч. У залежнасці ад зместу работы вучань можа абраць адпаведны жанр сачынення: апавяданне, нарыс, лірычны дзённік, верш і інш.

Парадак правядзення конкурсу вызначаецца абласным упраўленнем адукацыі.

Кожная вобласць накіроўвае да 15 мая 1994 года па 3 лепшыя сачыненні з кожнага класа на адрас Рэспубліканскага журы: 220010, г. Менск, вул. Савецкая, 9. Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, тэл. для даведак — 29-64-92.

Пры вызначэнні лепшых работ улічваецца якасць раскрыцця тэмы, уменне школьнікаў выказваць свае адносіны да падзей гераічнага мінулага, самастойна мысліць, выкарыстоўваць арыгінальныя выяўленчыя сродкі, пісьменна выказваць думкі.

Журы Рэспубліканскага конкурсу вызначае лепшыя творчыя работы (па 3 у кожным класе), арганізуе друкаванне іх у газеце «Наша слова» і іншых рэспубліканскіх выданнях, выдае асобны зборнік сачыненняў, уносіць прапановы аб узнагароджанні пераможцаў конкурсу.

У абласцях, раёнах, гарадах прапануецца апублікаваць лепшыя сачыненні вучняў у мясцовых перыядычных выданнях, расказаць аб іх па радыё і тэлебачанні, узнагародзіць аўтараў лепшых работ.

Намеснік міністра Г. А. БУТРЫМ.

Намеснік старшыні Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны Я. А. ЦУМАРАЎ.

*Матэрыялы для слоўніка «Беларускія імёны»*

*Сымон БАРЫС*

# *Як у нас клічуць?*

## *Мужчынскія імёны*

*(Працяг. Пачатак у № 9)*

**АДОЛЬ.** Адольф (ням.) — шляхетны воўк. Вытв.: Адолька, Адолік, Адолюсь, Адалюк. Імяніны: 19.04; 17.06. Імя па бацьку — Адолевіч, Адолеўна.

**АДРЫЯН.** Андриан (лац.) — з горада Адрыя; магчыма, той, хто жыве на Адрыятычным моры. Вытв.: Адрык, Адрук, Адрыясь, Андрыян, Андрыянка, Адрыяш. Імяніны: прав. 18.03; 30.04; 5.06; 8.09; 2.12; катал. 5.03. Імя па бацьку — Адрыянавіч, Адрыянаўна або Андрыянавіч, Андрыянаўна.

**АЗАР.** Азария (яўр.) — божая дапамога. Вытв.: Азарка, Азарык. Імяніны: 30.12. Імя па бацьку — Азаравіч, Азараўна.

**АКІМ, ЯКІМ.** Иоаким, Иоахим (яўр.) — бог прызначыў. Вытв.: А(Я)кімка, А(Я)кімачка, А(Я)хіманька, А(Я)кімік, А(Я)хімчык, А(Я)кімец, Якімцё, Юхім, Юктук, Юхша. Імяніны: пр. 22.09; катал. Іахім, Якім — 16.08. Імя па бацьку — Акімавіч, Акімаўна і Якімавіч, Якімаўна.

**АКСЕН.** Авксентий (грэч.) — прымнажэнне. Вытв.: Аксём, Аксік, Аксюк, Аксісь, Аксайла. Імяніны: 27.02; 1.05; 25.06; 26.12. Імя па бацьку — Аксёнавіч, Аксёнаўна.

**АЛЕГ.** Олег (са сканд.) — святы, святар. Вытв.: Алежка, Алежак, Алежа, Алежык, Алень, Аленька, Алік, Алічак, Алька, Алюх. Імяніны 3.10. Імя па бацьку — Алегавіч, Алегаўна.

**АЛЕСЬ, АЛЯКСАНДР.** Александр (грэч.) — абарона людзей. Разм.: Ляксандра, Аляксандра, Аляксандар. Вытв.: Алеська, Алесік, Алесенька, Алесюшка, Алясюк, (В)Ольцік, Валюк, (В)Олек, (В)Алесь (В)Алех, (В)Олесь, Воліська, Алелька, Вольша, Алехна, Лёкса, Шура, Шурка, Шурачка, Шурык, Шурычак, Аляксандрык, Аляксандарка, Аляксандрык. Імяніны: пр. гл. паводле календара (25 разоў на працягу года, апроч студзеня і лютага), катал. 26.02; 24.04; 3.05; 28.08; 11.10; 12.12. Імя па бацьку — Алесевіч, Алесеўна і Аляксандравіч, Аляксандраўна.

**АЛІЗАР.** Елізар. Елеазар, Елизарий (яўр.) — божая дапамога. Вытв.: Лізар, Алізарка, Лізарка, Елізарка, Імяніны: 26.01; 14.08. Імя па бацьку — Алізаравіч, Алізараўна і Елізаравіч, Елізараўна.

**АЛІМП.** Олимпий (грэч.) — светлы. Вытв. Лімпей. Імяніны 12.08. Імя па бацьку — Алімпавіч, Алімпаўна.

**АЛІСЕЙ.** Елисей (яўр.) — выратаваны богам. Разм.: Лісей. Вытв.: Алісейка, Алісейчык, Елісейка. Імяніны 27.06.

**АЛЯКСЕЙ, ЛЯКСЕЙ.** Алексий (грэч.) — абаронца. Вытв.: Аляксейка, Аляксейчык, Аляксютка, Алекса, Лёкса; Алёша, Алёха, Алёш, Алёшка, Алёшачка, Лёха, Лёша, Лёшанька, Лёшка, Лёшачка, Лёшык. Імяніны: пр. 25.02; 30.03; 2.06; 22.08; 18.10; катал. 17.07. Імя па бацьку — Аляксеевіч, Аляксееўна і Ляксеевіч, Ляксееўна.

**АЛЬБЕРТ.** Альберт (ням.) — шляхетны, знакаміты. Вытв.: Боля, Альбук, Альбас, Альба, Альбаш. Імяніны: катал. 17.06; 15.11. Імя па бацьку — Альбертавіч, Альбертаўна.

**АЛЬГЕРД.** Альгей. Ольгерд (старажыт. сканд.) Вытв.: Альгесь, Геруась, Ацюк, Альгук, Альгіяш. Імяніны: катал. 4.11. Імя па бацьку — Альгердавіч, Альгердаўна і Альгеевіч, Альгееўна.

**АЛЬДЗІСЬ.** Алоиз (лац.) — сын Луі. Вытв.: Альзік, Альзюк, Алейза. Імяніны: кат. 12.03; 21.06. Імя па бацьку — Альдзісевіч, Альдзісеўна.

**АЛЬФОН.** Альфонс (франц.). Вытв. Альфук. Імяніны: катал. 1.08; 30.10. Імя па бацьку — Альфонавіч, Альфонаўна.

**АМБРОС.** Абросім. Амвросий (грэч.) — бессмяротны, божы, боскі. Разм.: Амрось, Амрос, Амбрось. Вытв.: Амроська, Амброска, Амброська, Амроска, Амбражэй. Імяніны: пр. 23.10; 20.12; катал. Амбражэй — 7.12. Імя па бацьку — Амбросавіч, Амбросаўна і Амбросімавіч, Амбросімаўна.

**АЛЬФРЭД.** Альфред (франц.). Імяніны: катал. 14.08; 14.12. Імя па бацьку — Альфрэдавіч, Альфрэдаўна.

**АМОС.** Амос (яўр.) — цяжкасць, моц, цвёрдасць. Вытв.: Амоска, Амосік, Амоська, Імяніны: 28.06. Імя па бацьку — Амосавіч, Амосаўна.

**АМЯЛЛЯН.** Емяльян, Емельян (грэч.) — які належыць Емілію. Вытв.: Амяллянка, Міллян, Мілянка, Імяніны: пр. 20.03; 31.07; 20, 31.08; катал. Эміліян — 5.01; 8.08; 6.12. Імя па бацьку — Амяллянавіч, Амяллянаўна і Емельянавіч, Емяллянаўна.

**АНАНЬ, АНАСЬ.** Анания (яўр.) — «якога бог падараваў». Вытв.: Ананя, Ананік, Ананічак, Анік, Анічак. Імяніны: 17.01; 8.02; 30.04; 14.10; 14,30.12. Імя па бацьку — Ананевіч, Ананеўна, Анасевіч, Анасеўна.

**АНАСТАС, АНАСТАСЬ.** Анастасий (грэч.) — уваскрэшаны. Разм.: Настас. Вытв.: Настасік, Настас, Настаська, Стась, Стасік, Стаська. Імяніны: пр. 21.01; 3, 4, 6.02; 28.04; 3.05; 14.10; 7.11; 22.12; катал. 22.01. Імя па бацьку — Анастасавіч, Анастасаўна і Анастасевіч, Анастасеўна.

**АНАТОЛЬ.** Анатолий (грэч.) — усходні. Разм.: Натоль. Вытв.: Анатолік, Анатолька, Толь, Толя, Толенька, Толечка, Толік, Толічак, Толька, Талько, Талюк, Талюня, Талюша. Імяніны: пр. 6.05; 16.07; 10.09; 11.10; 3.12; катал. 2.05; 3.07; 20.11. Імя па бацьку — Анатолевіч, Анатолеўна.

**АНДРОН, АНДРОНІК.** Андроник (грэч.) — пераможца мужчын. Вытв.: Андронка, Андрончык. Імяніны: 30.05; 26.07; 12.08; 22.10. Імя па бацьку — Андронавіч, Андронаўна і Андронікавіч, Андронікаўна.

*(Працяг будзе).*

Водгулле беларускага слова

# ПЕРШЫ ЗАМЕЖНЫ КУПАЛАЗНАЎЦА

У 1908 годзе славенскі часопіс «Дом ін свет» змясціў рэцэнзійную нататку «Жалуйкай*. Песні Янука Купалы».

Гэта публікацыя пакуль што не заўважана і не ўведзена ў навуковы ўжытак.

Звернем увагу на дату і ўлічым, як аператыўна з'явіўся водгук, прычым у далёкім замежжы (калі першая рэцэнзія на радзіме датавана 9.07.1908 і змешчана была ў *газеце*).

Апроч таго, названы матэрыял пачынае працэс звароту славенцаў да беларускай літаратуры, ці не ўпершыню фіксуе ўвагу на беларускім народзе як годным заняць свой пасад між іншымі.

А яшчэ ў нататцы, хоць і фрагментарна, даюцца пераклады (відаць, таксама першыя) вершаў нашага выдатнага песняра.

Прывядзём змест гэтай публікацыі цалкам: «Першы беларускі паэт Янук Купала выдаў свае вершы, якія дагэтуль друкаваў у газеце «Наша ніва», пад назваю «Жалуйкай». Песні Янука Купалы — як люстэрка, у якім адбіваецца душа беларускага народа, яго жыццё, ягоны родны край; яны, быццам крык, што выходзіць з глыбіні народнай душы, «крык, што жыве Беларусь!». Пясняр прадвяшчае сваім супляменнікам, якія «нясуць сваю крыўду на свет цэлы», што будуць зноў «людзьмі звацца». У гожым вершы «Да мужыка» ён пытаецца ў селяніна:

*Эй, скажы, мужычок,*
*Дзе ты долю падзеў?*
*Ці ўтапіў ў ручаёк,*
*Ці прапіў, ці праеў?..*

(Паралельна з тэкстам арыгінала тут і далей змяшчаецца пераклад).

Але паэт верыць, што для беларускага мужыка наступяць лепшыя часы:

*Што вясна наша гора,*
*як снег і завею,*
*пахавае ў рэчцэ; —*
*сонца спаліць агнём...*

і што ўжо:

*блізкі той дзянёк, калі*
*шчасна запануем,*
*станем самі мы людзьмі*
*і край адбудуем..»*

Падпісаны матэрыял крыптанімам «Д. Л. Л.» Хто за ім? Пошукі, параўнальны аналіз і кансультацыя са славенскім філолагам Ежа Северам даюць падставы сцвярджаць, што гэта доктар Леапольд ЛЕНАРТ.

Кароткая даведка пра яго магла б выглядаць так.

Нарадзіўся 2.11.1876, памёр у 1962. Крытык, публіцыст, навуковец у такіх галінах, як мовазнаўства, літаратуразнаўства, гісторыя, культуралогія, багаслоўе, параўнальная славістыка, святар. Вывучаў тэалогію ў Інсбруку, філасофію ў Львове і Вене. Атрымаў ступені доктара тэалогіі і філасофіі. Перакладаў з рускай і польскай моў.

Іван ЧАРОТА.

* Такая форма перадачы назвы «Жалейка» — відаць, аўтарскі словатвор, паколькі ў ягонай роднай мове адпаведніка няма.

ВЕЧАРЫНЫ

# ЛЕГЕНДА НАШАЙ ПАЭЗІІ

Яшчэ адзін вечар — на гэты раз з нагоды 80-годдзя з дня нараджэння Валянціна Таўлая — сабраў ва ўтульнай Камiннай зале сталічнага Дома літаратара шчырых прыхільнікаў паэзіі. Вёў вечар народны пісьменнік Янка Брыль, і гэта не было выпадковасцю, бо ў мінулым абодвух творцаў звязвалі цесная дружба і агульны клопат пра лёс роднай літаратуры.

Быў В. Таўлай надзвычай сціплым, высакародным, чалавечным чалавекам, з развітым пачуццём нацыянальнай годнасці. Яму, вясковаму хлопчыку, пашчасціла паступіць у прэстыжную навучальную ўстанову — польскую настаўніцкую семінарыю ў Слоніме. Вучыўся там ахвотна, але нядоўга, бо не схацеў «перафарбавацца» ў паляка. У біяграфічных нататках «Аб сабе» чытаем: «...Пакуль настаўнік выгаварыў маё прозвішча, я ўжо стаяў. Настаўнік, нат не ўзнімаючы вачэй, задае шаблонныя пытанні...

— Нацыянальнасць? — пяро аўтаматычна выводзіць першыя літары.

— Беларуская.

Настаўнік глянуў на мяне. Не дачуў. Аднакурснікі пераглянуліся таксама.

— Нацыянальнасць?

— Беларуская.

— Першы раз чую пра такую нацыянальнасць. Дзе яна жыве? У Амерыцы?

— Жыве на Беларусі, напрыклад у Слонімшчыне.

— Ага!.. Гэта значыць — тутэйшыя. Та-ак! Але ж гэта — не нацыя. Кожны выхадзец з тутэйшых у людзі становіцца палякам ці рускім. Прытым — ты вучышся ў польскай школе... Як жа запісаць?

— Пішыце: нацыянальнасці — беларускай!..

Пяро злосна скрыпіць, запісваючы мой упарты адказ.

— Родная мова ў сям'і?

— Беларуская.

— Няма такой мовы!

— Відаць, ёсць — калі гаворым.

— Гэта мужыцкая гаворка, бескультурная трасянка, якую забываецца кожны культурны выхадзец з тутэйшых і пасля саромеецца нат прыпамінаць!

— Я не саромеюся.»

Праз дзень-другі хлопца пазбавілі стыпендыі, праз тыдзень — перасталі даваць есці. І яму давялося сказаць: «Бывай, салідная школа!»

В. Таўлай нарадзіўся ў Баранавічах. Без маці застаўся з чатырох гадоў. Выхоўваў бацька-грамадавец, чалавек цвёрдых прынцыпаў, адзін з якіх гучаў так: «Не цурайся свайго».

Пражыў усяго трыццаць тры гады — пакутніцкія, але яркія. Першыя вершы — у чатырнаццаць гадоў, арышт за падпольную камсамольскую дзейнасць — у пятнаццаць гадоў. Таўлая катуюць у Слонімскай дэфензіве — вядомы яго здымак з дошкай на грудзях.

Сябры і паплечнікі ацанілі на вечарыне яго змаганне з польскімі ўладамі як патрыятычнае, за правы беларусаў, бо нават КПЗБ, як адзначыў Анатоль Іверс, змагалася ў той час за зямлю без выкупу і за родныя школы. Дзевяць гадоў забрала ў Таўлая санацыйная турма, тры гады — вайна, на якой ён — канспіратар, падпольшчык, разведчык — быў прывучаны да абачлівасці і асцярожнасці.

Лёс наканаваў яму для творчасці ўсяго два гады. У 1945—1946 гадах пісаў і парадкаваў напісанае раней. Народны паэт Беларусі Максім Танк прыгадаў: да 1939 г. яны з Таўлаем не ведалі адзін аднаго, хоць і хадзілі з ім па адных дарогах, на адны і тыя ж яўкі. Ва ўмовах канспірацыі нельга было сустракацца. Пазнаёміліся пасля ўз'яднання Беларусі, у 1939. Таўлай гасцяваў у М. Танка ў Беластоку. Запамяталася, як старанна апрацоўваў свае творы, улічваючы заўвагі прафесіяналаў і чытачоў. А працаваць Таўлаю выпала ў цяжкія гады, калі з лявацкіх пазіцый кампартыя адносілася да такіх культурна-прасветных арганізацый Заходняй Беларусі, як Таварыства беларускіх школ, Інстытут гаспадаркі і культуры, Беларускі музей і інш. КПЗБ выдавала аднадкнеўкі, у якіх асуджалі Р. Шырму, Паўловіча, Грыцкевіча і цэлую плеяду выдатных людзей, якія працавалі на культурнай ніве, за тое, што яны слаба ангажуюцца ў палітычную дзейнасць. Рукапісы В. Таўлая, якія выносіліся М. Танкам у 1935—1936 гг. з турмы і перасылаліся ў музей І. Луцкевіча, не захаваліся. Засталіся толькі ад таемных зладзеяў пустыя канверты.

Прыемна, што сёння памяць паэта-змагара ўшаноўваецца на радзіме. З Баранавіч на вечар памяці прыехала дваццаць чалавек бібліятэчных работнікаў, а з імі настаўніца Алена Яхант, намаганнямі якой у гарадской школе № 4 створаны музей Таўлая.

З успамінамі пра паэта выступілі перад прысутнымі таксама паэт Анатоль Вялюгін, паплечнік і зямляк Таўлая Анатоль Іверс, навагрудскі журналіст Андрэй Траяновіч. Вершы, прысвечаныя Таўлаю, прачыталі М. Танк, А. Вялюгін, Л. Рублеўская, М. Бусько. Артыст В. Манаеў прачытаў шэраг вершаў В. Таўлая. Фальклорны калектыў «Калыханка» Ларысы Рыжковай з Цэнтра эстэтычнага выхавання дзяцей выканаў абрадавыя песні.

Ірына КРЭНЬ.

*Людміла РУБЛЕЎСКАЯ*

## Валянціну Таўлаю

*Страляюць паляўнічыя на спеў*
*І шоргат крыл.*
*Кароткі лёс птушыны!*
*Лунай, паэт, хвалі, чаго не меў —*
*Свае заб'юць, як не заб'юць чужыя.*
*Цябе абвінавацiць — што зміргнуць —*
*Твая віна — ў тваім святым даверы.*
*Дзе рэкі беларускія цякуць —*
*Там праваму не вераць левы бераг.*
*Ці час такі, ці лёс няўдалы ў нас?*
*Край межавалі ворагі заўзята.*
*Каго ж прасіць — у песню не страляць,*
*Калі з бакоў абодвух стрэльбы ўзняты?*
*...Здавалася, што адступіла смерць*
*І вольная ад меж зямля ўздыхнула...*
*Паэт паспеў найрад ці зразумець,*
*З якога боку пасылалі кулю...*

ЧЫТАЛІ?

# Шчодрая «Шчырая Шчара»

Рэкі і азёры спрадвеку служылі чалавеку: частавалі духмянай юшкай ды розным іншым смакоццем, дапамагалі ў непасільнай працы, на сваіх плячах валаклі да мора цэлыя дубровы, вазілі ў нядзелю да кума на пагасціны ці на кірмаш — узгадайма эпічны шлях з варагаў у грэкі.

А яшчэ — нараджалі паэзію.

Варта прыгадаць Свіцязь — і навіецца ў памяці несмяротнае баладнае слова Адама Міцкевіча.

Успомніш Нёман — і ўявіцца другі Міцкевіч — Якуб Колас, што нібы сапраўдны плытагон, ледзь не ад вытокаў запускае ў кругасветнае падарожжа дыхтоўныя вязанкі класічных наднёманскіх вершаў.

Прамовіш — Нарач, і закарцінь паўтарыць услед за Максімам Танкам: «Люблю тваe, Нарач, затокі і тоні, Як вецер густыя туманы развесіць...»

Нароўні з кнігагандлем развозіў па ўсёй Беларусі і сплаўляў далей на Украіну паэзію Уладзіміра Караткевіча сівавусы Дняпро.

Падсочаная меліярацыяй, золкая Ясельда з апошніх сіл данесла да нас шчымлівую споведзь Яўгеніі Янішчыц...

На берагах маляўнічай Шчары не змаўкае песеннае рэха слонімскіх экспромтаў Алега Лойкі. І вось да натхнёнага прафесарскага хвалаcпеву далучыўся голас паэта Сяргея Чыгрына — у Слоніме выйшла кніга ягоных вершаў «Шчырая Шчара». Калі ўлічыць, што невялічкая Шчара праз Нёман мае доступ да Балтыкі, а падчас паводкі ўспамінае сваё былое прызначэнне — доўжыць шлях да Чорнага мора — занядбаны канал Агінскага, то можна сцвярджаць амаль пэўна: паэзія Сяргея Чыгрына неўзабаве будзе пачутая ў самым шырокім свеце.

Здаецца, і сам паэт разумее важнасць і надзейнасць водных шляхоў у наш непрадбачлівы час. І ўжо самой назвай кнігі нібы паддобрываецца да роднай рэчкі. Не забываецца своечасова сказаць паэтычны кампліме́нт і другому свайму патэнцыяльнаму «кніганошы»:

*Дамоў зычлівы Слонім*
*клікаў,*
*Дзе сэрцу ўсё так блізка,*
*Дзе, як струна са*
*скрыпкі,—*
*Канал Агінскага.*

Слонімшчына ў асобе Сяргея Чыгрына мае добрага сябра і няўрымслівага даследчыка. Безліч нататкаў і допісаў пра выбітных слонімцаў расцерушыў па беларускай перыёдыцы Сяргей. І паэзія яго гучыць як гімн Слонімскаму краю: «Касцёл святога Андрэя ў Слоніме», «Гальяш Леўчык», «Успенскі сабор у Жыровіцах», «Маналог Анатоля Іверса», «Сынковічы», «Сяргей Дарожны», «Вёска Глоўсевічы»...

Здаецца, капрызная паненка-метафара, што на вочы бальшасці беларускіх паэтаў трапляе толькі зрэдзьчасу, сама напрошваецца ў вершы С. Чыгрына:

*Неба казыча гром.*
*Град засыпае ганак.*
*Ясень дрыжыць пад*
*дажджом,*
*Слухае сварку маланак.*

А паважанаму доктару філалогіі Вячаславу Пятровічу Рагойшу варта час ад часу паднаўляць свае даследчыцкія рэестры, чытаючы сваіх незлічоных вучняў. Будзем спадзявацца, што ў будучае, трэцяе выданне грунтоўнага «Паэтычнага слоўніка» трапіць і «Таўтаграма» С. Чыгрына:

*Блюзніцца*
*Бляклы*
*Бакборт,*
*Бераг*
*Балот —*
*Багністы.*
*Буслы*
*Балацяняць*
*Брод,*
*Быццам*
*Бравастыя*
*Бургамістры.*

А то, гартаючы выданне другое, можна падумаць, што ў беларускай паэзіі шмат якія віды верша ці проста «адсутнічаюць» ці «не прыжыліся» (напрыклад, секстына лірычная, альбо паліндром). І бедным беларусам нібыта ўвесьчасна трэба ісці ў пазычкі да чужых дзядзькоў — найчасцей да расейскага эксперыментатара В. Брусава.

Міхась СКОБЛА.

*З літаратурнай скрынкі*

*Спадару М. П. з Гомеля.*

Атрымалі Вашы вершы: «Гімн Беларусі», «Радзіма ўсяго даражэй!» і «С.Б.М.». Адразу па назвах бачна, што творы патрыятычныя. Але для таго, каб верш стаў з'явай у літаратуры, гэтага недастаткова. Да ўсяго, у час натхнення не забывайцеся, што ў паэзіі існуе рытм (ямб, харэй, амфібрахій), які надае творам мілагучнасць. Вашы радкі «Мы марым жыць у цывілізаванай краіне, Сябраваць з Польшчай, Латвіяй, Літвой, Расіяй, Украінай. Тыя ў нас у пашане, Хто шчасця і міра жадае, хто сумленна жыве, добра працуе, Хто навуку й мастацтва шануе» — правільныя, але так можа напісаць кожны, хто возьмецца за пяро. Паэт жа павінен шукаць свае словы, каб выказаць думку так, як ніхто да яго не рабіў. Не крыўдуйце за заўвагі. Жадаем поспехаў і натхнення!

